# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон: Старшыні ЦП № 4-08. Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 4 (39) | 1-га красавіка 1930 году | № 4 (39)

## ЗЬМЕСТ



*Дадатак да пратаколу № 33, ад 9-III 1930 г.*

## ПАСТАНОВА

**Прэзыд. БРК СГЛР аб разгортваньні работы па масавай калектывізацыі батрацтва.**

1. Прызнаць, што масавая калектывізацыя батрацтва праходзіць надзвычайна марудна, што стварае пагрозу не выкананьня задачы па ўцягненьню 60 тыс. батракоў і батрачак у калгасы да пачатку вясновай пасеўкампаніі, аб чым сьведчаць наступныя лічбы па акругам

| Назва акруг | Кольк. батрак. | Уцягн. у кал. | Павінна была быць уцяг. у кал. | Проц. выканаьня плян. зад. |
|---|---|---|---|---|
| Менская | 14.432 | 5104 | 10.450 | 50 |
| Аршанскя | 9.717 | 2472 | 6.960 | 35 |
| Бабруйская | 10.333 | 5219 | 7.450 | 70 |
| Гомельская | 10.114 | 2157 | 7.250 | 30 |
| Віцебская | 9.078 | 2121 | 6.480 | 33 |
| Магілёўская | 12.640 | 3172 | 12.640 | 25 |
| Мазырская | 4.846 | 1947 | 3.490 | 56 |
| Полацкая | 7.299 | 2425 | 5.280 | 46 |
| Разам: | 78.459 | 24607 | 60.000 | 41 |

2. Такое становішча тлумачыцца тым, што мясцовыя саюзныя арганізацыі, а таксама калгасныя аб'еднаньні недацэньваюць рост батрацтва, як пролетарскага асяродку ў калгасным будаўніцтве (батраку да вясны няма чаго рабіць у калгасе, калгас не сабез, батрак ня хоча ісьці ў калгас і інш).

3. Адзначыць недапушчальна-марудную работу н[батрацкага сэктару БРК, Калгасцэнтру, Белкаапсаюзу, ЦК СТУ і др. орг. па практычнаму вырашэньню пытаньня аб матар'яльным забясьпечаньні батракоў калгасьнікаў да новага ўраджаю, дзякуючы чаму адпаведная пастанова СНК БССР да гэтага часу не рэалізавана.

4. У мэтах поўнага і сваечасовага выкананьня задачы аб калектывізацыі 60 тыс. батракоў і батрачак Прэзыдыум БРК пастанаўляе:

а) Усім саюзным арганізацыям з 15/III-г. г. разгорнуць работу па масавай вярбоўцы батрацтва ў калгасы, з тым каб да пачатку севу ў калгасы было ўцягнута ня менш 60 тыс. батракоў.

б) Да 1/IV-г. г. па усім раёнам арганізаваць і правесьці агульныя і куста-

выя сходы батракоў, на якіх растлумачыць батрацтву яго ролю ў калгасным будаўніцтве, растлумачыць батрацтву пастановы Ураду аб матар'яльным забясьпечаньні батракоў-калгасьнікаў, на гэтыя сходы прыцягнуць прадстаўнікоў с/саветаў і калгас аб'яднаньняў, арганізуючы на гэтых-жа сходах уступленьне батрацтва ў калгасы.

в) Масавую вярбоўку батрацтва ў калгасы ўвязаць з прыцягненьнем батрацтва да актыўнага ўдзелу ў рабоце батрацка-бедняцкіх груп у калгасах; у перавыборах калгасных органоў і чыстцы калгасаў ад кулацкіх і варожых элементаў.

г) Для арганізацыі работы па масавай вярбоўцы батрацтва камандыраваць з 13/III у акругі членаў Прэзыдыуму адказных работнікаў БРК.

д) Н/батрацкаму сэктару прыняць рашучыя захады да хутчэйшае рэалізацыі пастановы СНК аб матар'яльным забясьпечаньні батракоў-калгасьнікаў.

е) Прасіць Белкалгасцэнтр даць па сваей лініі адпаведныя паказаньні.

ж) Калгасна-батрацкаму сэктару, разам з Калгасцэнтрам, наладзіць сталы вучот вынікаў работы па калектывізацыі батрацтва.

*Да пратаколу № 33, ад 9/III-1930 году*

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Беларэска саюзу сельгаслесрабочых аб удзеле саюзу ў рабоце батрацка-бедняцкіх груп.

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б сваей пастановай у лютым месяцы 1930 году з усей рашучасьцю і катэгарычнасьцю падкрэсліў, што: „Калектывізаваць да канца 1931 году ўсе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі Беларусі і поўнасьцю ліквідаваць кулацтва, як клясу, не магчыма без мабілізацыі батрацка-бядняцкіх мас на выкананьне гэтых задач, без узмацненьня бядняцка-серадняцкага блёку і ўсямернага разгортваньня работы па самастойнай арганізацыі бедноты і батрацтва, без узмацненьня палітычннай ролі батрацтва і беднаты, як адзінай асноўнай апоры партыі ў вёсцы". „Прафсаюзы і шэфскія арганізацыі ў значна большай меры павінны сваю работу ў вёсцы ўвязаць з задачамі дапамогі мясцовым арганізацыям па ўзмацненьні і палепшаньні работы арганізацыі батрацтва і бедноты".

Прызнаць недапушчальна слабы ўдзел нізовых прафарганізацый нашага саюзу ў рабоце існуючых і арганізацыі новых батрацка-бядняцкіх груп і адначасова адзначыць, што большасьць сельрабачкомаў і рабачкомаў не ўявілі, што работа па арганізацыі беднаты і батрацтва ў першую чаргу наладжваньня работ батрацка-бядняцкіх груп—есьць важнейшая задача Саюзу Сельгаслесрабочых.

У мэтах узмацненьня работы з батрацтвам і беднатой, замацаваньня батрацка-бядняцкіх груп і аказаньня большага садзейнічаньня і дапамогі ў гэтай справе, мясцовым партыйным арганізацыям з боку Саюзу, Прэзыдыум БРК пастанаўляе:

1) У другой палове сакавіка месяца правесьці куставыя сходы батракоў, на якіх шырока растлумачыць батрацтву задачы і значэньне батрацка-бядняцкіх груп і пагалоўнага ўцягненьня батрацтва ў работу гэтых груп. Асабліва завострыць пытаньні калектывізацыі батрацтва і актыўнага ўдзелу іх у пачынаючыхся перавыбарах сельсаветаў. Трэба поўнасьцю растлумачыць усяму батрацтву задачы сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі на падставе калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы ў раёнах суцэльнай калектывізацыі.

2) У тых пунктах, дзе маюцца рабочыя камітэты і сельрабачкомы, але няма партячэек і не з'арганізаваны яшчэ батрацка-бядняцкія групы пры калгасах, сельсаветах, каапэрацыі і КСУ, сельрабачкомы, і рабачкомы, пад кіраўніцтвам бліжэйшых партячэек, павінны безадкладна прыступіць да арганізацыі і наладжваньні работы батрацка-бядняцкіх груп і ў першую чаргу ў калгасах і сельсаветах. Групы беднаты павінны

арганізоўвацца з разьліку ня менш аднэй і ня больш двух на кожны сельрабачком і рабачком.

3) У працягу сакавіка месяца павінны быць падрабязна прапрацаваны асноўныя рашэньні партыі і ўлады на ўсіх пашыраных пасяджэньнях сельрабачкомаў і рабачкомаў аб задачах работы з беднатой і асабліва батрацка-бядняцкіх груп і намеціць асноўныя задачы дадзенага рабачкому і сельрабачкому ў гэтай галіне.

4) Акруговыя і раённыя інструктары павінны жывым удзелам і інструктаваньнем, узмоцніць сыстэматычную дапамагу рабачкомам і сельрабачкомам у наладжваньні работы батрацка-бядняцкіх груп. Кожны рабочы камітэт і сельрабачком, кожны раённы і акруговы інструктар нясуць поўную адказнасьць перад БРК саюзу за своечасовую арганізацыю і наладжваньне работы батрацка бядняцкіх груп.

5) Пры БРК у складзе Калгасна-Батрацкага Сэктару ўвясьці спэцыяльнага інструктара па наладжваньні ўдзелу саюзу ў рабоце батрацка-бядняцкіх груп.

6) Увесьці ў практыку работы Прэзыдыуму БРК сыстэматычнае заслухоўваньне спэцыяльных дакладаў рабачкомаў, сельрабачкомаў, акруговых і раённых інструктароў аб тым, як імі ажыцьцяўляюцца дырэктывы па рабоце з беднатой і наладжваньні работы батрацка-бядняцкіх груп. Даручыць Калгасна-Батрацкаму Сэктару скласьці каляндар гэтых дакладаў і пачаць ажыцьцяўленьне з 1-га красавіка г. г.

7) Адзін раз у тры месяцы на пасяджэньні Прэзыдыуму і адзін раз у 6 месяцаў на пленумах БРК падвадзіць вынікі ўдзелу саюзу ў рабоце батрацка-бядняцкіх груп.

8) Сельрабачкомы і рабачкомы на сваіх пасяджэньнях павінны ня менш аднаго разу ў $1^1/_2$ м-ца падводзіць вынікі сваей работы па арганізацыі батрацтва і ўдзелу ў рабоце батрацка-бядняцкіх груп.

9) Уся праца батрацка-бядняцкіх груп праводзіцца партыйнымі арганізацыямі і пад іх непасрэдным кіраўніцтвам, пагэтаму сельрабачкомы і рабачкомы павінны трымаць цесную сувязь з партыйнымі ячэйкамі і атрымоўваць ад іх практычныя паказаньні аб тым, як трэба арганізаваць і наладзіць работу батрацка-бядняцкіх груп.

10) Узмацненьне ўвагі саюзных арганізацый палепшаньню работы батрацка-бядняцкіх груп павінна зьявіца пераломным момантам к большаму росту партыі ў вёсцы за лік батракоў і сельгаслесрабочых, наладжваньню культурна палітычнай работы з батракамі і сельгаслесрабочымі.

11) Даручыць Калгасна - Батрацкаму Сэктару БРК у разьвіцьцё гэтай пастановы ў 10-ці дзённы тэрмін даць на месцы падрабязныя паказаньні аб асноўных задачах груп бедноты, асобна калгасных, с/савецкіх, КСУ і каапэрацыі, а таксама паслаць неабходную кіруючую літаратуру па гэтых пытаньнях і падрабязна распрацаваць парадак вучоту работы, як у БРК, так і сельрабачкомах.

## ПАСТАНОВА

### Савету Народных Камісараў БССР пра мерапрыёмствы для ўцягненьня батракоў у савецкія і калектыўныя гаспадаркі.

Для ўцягненьня да пачатку вясновай пасеўнай кампаніі ў калектыўныя і савецкія гаспадаркі ня менш 60 тыс. батракоў, у тым ліку ўсяго батрацтва ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, а да канца 1930 г. усіх батракоў БССР, і для стварэньня спрыяючых умоў для гэтага, Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Вызваліць батракоў, якія ўваходзяць у калгасы, ад платы ўступных узносаў, маёмасць і сродкі вытворчасьці батракоў, якія ўваходзяць у калгасы, павінны перадавацца калгасам на агульных падставах.

Тыя батракі, якія ня маюць зусім маёмасьці, вызваляюцца ад паявых узносаў.

2. Абавязаць калгасы даваць сваім членам—былым батракам—работу ў першую чаргу і абавязкова выплачваць ім ня менш, як тры разы ў месяц заработную плату грашыма, альбо натурай ня менш 60 проц. ад нормы аплаты працы, устноўленай у дадзеным калгасе.

3. Абавязаць Народны Камісарыят Гандлю ўжыць захады для рэгуляваньня забесьпячэньня членаў калгасу—былых батракоў і іх семьяў хлебам па норме 400 грам на дзень на самога батрака і па ўстаноўленай норме для членаў яго сям'і, а таксама для забесьпячэньня іх дэфіцытнымі прадуктамі і таварамі. Цьвёрдыя сьпісы батракоў, якія падлягаюць забесьпячэньню хлебам, устанаўляюцца кіраўніцтвам калгасаў і камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і перадаюцца спажывецкай каапэрацыі.

4. Даручыць Белсельбанку для забесьпячэньня рэгулярнай выплаты калгасамі заработнай платы членам калгасу—былым батракам—вылучыць для ільготнага каротка-тэрміновага (да аднаго году) крэдытаваньня калгасаў фонд у разьмеры 2 млн. руб., улічваючы і фонд калектывізацыі беднаты і батрацтва.

Запрапанаваць Народнаму Камісарыяту Фінансаў, Народнаму Камісарыяту Земляробства, Белсельбанку і Белкалгасцэнтру не пазьней, як праз 10 дзён устанавіць крыніцы ўтварэньня гэтага фонда і ўмовы крэдытаваньня.

5. Абавязаць калгасы канфіскаваныя ў кулакоў жылыя памяшканьні, пасьля задавальненьня грамадзкіх патрэб калгасаў, перадаваць у першую чаргу пад кватэры для батракоў.

6. Абавязаць Галоўсацстрах і Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі вылучыць адпаведныя сродкі для выдачы адначасовых дапамог найменш забесьпечаным батракам—членам калгасаў і разам з Белкалгасцэнтрам установіць разьмеры і парадак выдачы гэтых дапамог.

7. Абавязаць савецкія гаспадаркі набіраць рабочых у першую чаргу з батракоў.

8. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Белкалгасцэнтру штомесячна інфармаваць Савет Народных Камісараў пра ажыцьцяўленьне гэтае пастановы.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР **Л. Дубавіцкі.**

2 сакавіка 1930 г.
г. Менск.

# ПАСТАНОВА

## Прэзыдыуму БРК Саюзу Сельгаслесрабочых па пытаньні „аб рэалізацыі пастановы СНК БССР ад 2/III-30 году пра матар'яльнае забесьпячэньне батракоў-калгасьнікаў"

1. Да канчатковага ўстанаўленьня крыніц утварэньня фонду ў разьмеры 2-х мільёнаў рублёў на каротка-тэрміновае крэдытаваньне калгасаў для аплаты працы батракоў-калгасьнікаў лічыць патрэбным вызначыць на сакавік і красавік м-цы г.г. неабходныя сродкі для крэдытаваньня калгасаў арыентыровачна ў разьмеры ня менш 500 тысяч рублёў. Для чаго каапэрацыйныя цэнтры БССР і Белсельбанк з агульных фондаў каапэраваньня і калектывізацыі батрацтва і беднаты вылучаюць у тэрміновым парадку 35%

2. Фонд крэдытаваньня калгасаў на зарплату батракам-калгасьнікам разьмяркаваць па раённых крэдытных таварыствах для каротка-тэрміновага крэдытаваньня калгасаў.

Пры Белсельбанку ўтварыць рэгулюючы фонд з адлічэньняў у фонд каапэраваньня і калектывізацыі батрацтва і беднаты самага банку, памольнага збору, штрафных сум, а таксама сродкаў, паступаючых ад рэспубліканскіх каапэрацыйных цэнтраў.

3. Крэдытаваньне калгасаў раённымі крэдытнымі таварыствамі на мэты, паказаныя ў 1-м артыкуле гэтае пастановы, вытварыць на наступных асноўных умовах:

а) Крэдыт, як правіла, выдаваць на тэрмін да 1-го году. У межах гэтага тэрміну раённымі крэдытнымі таварыствамі ўстанаўліваюцца тэрміны пагашэньня пазык асобнымі калгасамі ў залежнасьці ад моцнасьці кожнага калгасу паасобку, маючы на ўвазе пагашэньне атрыманых сродкаў пасьля зьняцьця і рэалізацыі ўраджаю.

б) Крэдыт выдаваць у якасьці бяспрацэнтнай пазыкі.

в) Крэдытаваньне калгасаў вытварыць выходзячы з колькасьці батракоў

даным калгасе і з разь[illegible] ня менш, к 12 руб. у сярэднім на [illegible]жнага батрака ў месяц. У залежнасьці ад моцнасьці калгасу і наяўнасьці ўласных сродкаў, гэта сума можа дыфэрэнцыравацца для кожнага калгасу.

г) Крэдыт выдаецца пад абавязацельствы праўленьня калгасу.

4. Для разьмяркаваньня крэдытаў на зарплату батракам-калгасьнікам паміж паасобнымі калгасамі пры раённых выканаўчых камітэтах утвараюцца камісіі ў складзе прадстаўніка РВК (старшыня), рабачкому саюзу Сельгаслесрабочых, Райкалгассаюзу, Крэдытнага Т-ва і КСУ.

5. Для атрыманьня крэдыту на зарплату батракам-калгасьнікам калгасы прадстаўляюць у райкрэдытныя т-вы сьпісы батракоў, якім належыць выплата зарплаты па рабоце ў калгасе, пры чым гэтыя сьпісы папярэдне абгавараюцца на сходзе батрацка-бядняцкай групы і зацьверджаюцца праўленьнем калгасу.

6. Для аказаньня адначасовай матар'яльнай дапамогі бяднейшай часткі батракоў-калгасьнікаў у адпаведнасьці з пастановай СНКБ, паставіць пытаньне перад КСУ вылучыць для гэтай меты з сваіх сродкаў 100 тысяч рублёў і Галоўсацстраху 52.500 руб. Разьмяркаваньне гэтай сумы па раёнах ускласьці на камісію ў складзе: БРК саюзу СГЛР, Белкалгасцэнтру, ЦК КСУ і Галоўсацстраху.

7. Вызначаныя на безузваротную дапамогу батракам-калгасьнікам сродкі выдаюцца праз крэдытныя таварыствы. Гэтыя сродкі разьмяркоўваюцца па асобным калгасах, выходзячы з сярэдняй выдачы дапамогі батракам: сямейным ня звыш 15-20 руб. і адзінокім 8-12 руб. камісіяй, паказанай у артыкуле 4-м гэтае пастановы, з папаўненьнем яе раённым упаўнаважаным сацстраху.

8. Сьпісы батракоў-калгасьнікаў на адначасовую дапамогу складаюцца праўленьнем калгасу з удзелам прадстаўніка ад рабачкому саюзу СГЛР і КСУ і абгаварваюцца на сходзе батрацка-бядняцкай групы данага калгасу.

9. Выдача дапамогі батракам павінна быць вытварана не пазьней красавіка б. г.

10. Зьвярнуць увагу НКГандлю на неабходнасьць прыняцьця з яго боку тэрміновых захадаў да забесьпячэньня батракоў-калкасьнікаў хлебам, якога па папярэдніх падліках патрабуецца каля 300 тысяч пудоў да новага ўраджаю і іншымі прадуктамі і таварамі шырокага спажываньня праз спажывецкую каапэрацыю. Белкаапсаюзу да 15/III-г.г. даць падрабязныя паказаньні сваёй нізовай сетцы па гэтым пытаньні, забясьпечыўшы максімальна магчымае забясьпячэньне батракоў-калгасьнікаў прадуктамі і таварамі спажываньня.

# ПАСТАНОВА

## Прэзыдыуму Беларускага Рэспубліканскага Камітэту Саюзу Сельгаслесрабочых.

### Аб ходзе работы падрыхтоўкі да Ўсебеларускай с-г. Выстаўкі.

1) Вытворчым сэктарам (Саўгаскаму, Калгасна-Батрацкаму, Лясному, Тарфяна-Меліарацыйнаму), разам з сэкцыямі спэцыялістых у тэрміновым парадку перапрацаваць канкрэтныя пляны ўдзелу ў выстаўцы адпаведнае галіны сельскае і лясное гаспадаркі, а таксама забясьпечыць поўнае выкананьне плянаў Выстаўкі ў частцы прадстаўленьня на Выстаўцы ўмоў працы і быту сельгаслесрабочых.

2) На падставе канкрэтных плянаў удзелу ў Выстаўцы асобных галін сельскае гаспадаркі (саўгасы, калгасы, вопытныя станцыі, лясная гаспадарка, тарфяная, мэліарацыя і інш), даць па рабачкомах практычныя паказаньні аб узьмацненьні ўдзелу саюзных арганізацый ў падрыхтоўчай рабоце да Выстаўкі.

3) Рабачкомам Саюзу да 10/IV-г. г. заслухаць даклады сельрайвыстаўкомаў аб ходзе падрыхтоўкі да Выстаўкі і намеціць практычныя пляны па дапамозе ў гэтай справе з боку саюзных арганізацый.

4) У мэтах лепшае арганізацыі падрыхтоўкі да Выстаўкі на мясцох, папулярызацыі Выстаўкі сярод рабочых, батракоў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас, пры рабачкомах саюзу стварыць камісіі садзейнічаньня па падрыхтоўцы і арганізацыі Выстаўкі.

5) Камісіям садзейнічаньня арганізацыі Выстаўкі арганізаваць праверку падрыхтоўчай работы да выстаўкі ў саўгасах, калгасах, фэрмах, вопытных станцыях, лясніцтвах, торфзаводах, і іншых прадпрыёмствах, а таксама разам з фабзаўкомамі прамысловых прадпрыёмств якія знаходзяцца на вёсцы, праверыць як гэтыя прадпрыёмствы рыхтуюцца да выстаўкі.

6) Усім рабачкомам і мясцкомам праверыць да 1/IV-г. г. ці адасланы саўгасамі, лясніцтвамі, калгасамі і другімі прадпрыёмствамі сельскае і лясное гаспадаркі экспанаты, якія яны павінны прадставіць на выстаўку, згодна плянаў выстаўкомаў.

7) Саюзным культустановам, насьценным газэтам, газэце „Беларускі Батрак" і радыё-газэце разгарнуць работу па папулярзацыі Выстаўкі сярод сельгаслесрабочых, калгасьнікаў і бедняцка-серадняцкай часткі сялянства.

7) Арганізацыйнаму Сэктару прыняць захады да поўнага скарыстаньня 10% месц, прадстаўленых для сельгаслесрабочых, разьмяркаваць гэтыя месцы па рабачкомах, арганізаваць падбор экскурсантаў, распрацаваць і далажыць на Прэзыдыуме мерапрыёмствы аб абслугоўваньні экскурсантаў сельгаслесрабочых у час прабываньня на Выстаўцы аб абясьпячэньні іх кватэрамі.

9) Адказнасьць за арганізацыю выкананьня гэтае пастановы ўськласьці на тав. **Ляшкевіча.**

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Б. Р. К. Саюзу Сельгаслесрабочых па пытаньні „аб падрыхтоўцы да падыходзячых работ на торфараспрацоўках і мэліярацыі".

1) У сэзон 1930 году перад гаспадарчымі і саюзнымі арганізацыямі стаяць задачы: па Белторфу выпрацаваць 350.000 тон торфу і падрыхтаваць 8 торфзаводаў да наступнага году; па лініі мэліярацыі адрэгуляваць 22 ракі—288 кілёметраў, правесьці капітальны рамонт каналаў—75 кілёметраў, новыя магістральныя каналы—138 кілёмэтраў, інтэнсіўную асушку і водаадводную сетку для інтэнсіўнай асушкі на плошчы 75.000 га, вышуканьне на плошчы 94000 га, і інш.

На работах гэтых у сярэднім павінна быць занята 30.000 рабочых.

2) Падрыхтоўка да выкананьня гэтых задач і да абслугоўваньня рабочых як па лініі гаспадарчых арганізацый, так і па лініі саюзу і Наркампрацы амаль не распачалася: вярбоўка рабочых не разгорнута, машыны не падрыхтаваны, з запасных частак-лапат, тапароў амаль няма, набрасных пуцей не хапае, спэцвопратка не нарыхтавана (Белторф), у галіне забесьпячэньня прадуктамі харчаваньня, праца таксама не разгорнута, кв. рабочымі на машынах і малодшымі адміністрацыйна-тэхнічнымі работнікамі, асабліва торфараспрацоўкі, не забясьпечаны і інш.

На падставе гэтага лічыць неабходным:

1) **Па лініі гаспадарчых арганізацый:**

а) Прыняць тэрміновыя меры да вярбоўкі рабочых з батракоў і калгасьнікаў, патрабуючы ад Наркампрацы выкананьня дагавораў, а таксама і сваімі сіламі, у выпадку, калі НКПрацы не забясьпечыць вярбоўку патрэбнай колькасьці рабочых. Акрінструктарам, райінструктарам усім саюзным ячэйкам аказаць сапраўдную дапамогу гаспадарчым органам і Наркампрацы і прыняць непасрэдны ўдзел у вярбоўцы рабочай сілы.

б) Белторфу забясьпечыць торфраспрацоўкі жалезам, запаснымі часткамі, рэйкамі для набрасных пуцей і для пракладкі вузкакалеек, прыняць меры у тэрміновым парадку да набыцьця тапароў, лапат і інш. інструментаў. Машыны, як па Белторфу, так і па мэліярацыі адрамантаваць і падрыхтаваць так, каб у час работ прастоі па прычынах мэханічных недастаткаў не маглі мець месца.

в) Зараз-жа ўзяцца за нарыхтоўку спэцвопраткі (бахіл, лапцяў), за падрыхтоўку баракаў (у мінулым годзе баракі закончваліся тады, калі прыехалі рабочыя), пабудаваць сушылкі, студні, абсталяваць сталоўкі для грамадзкага харчаваньня, абсталяваць памяшканьні для культабслугоўваньня рабочых.

г) Лічыць патрэбным для падрых-

тоўкі качагараў Белторфу арганізаваць месячныя курсы на 40 чалавек. з 1/IV- г. г. якія ўкамплектаваць батракамі і рабочымі торфараспрацовак—пралетарамі.

д) Для забесьпячэньня торфараспрацовак малодшым адміністрацыйна-тэхнічным пэрсаналам Белторфу і іншым больш рашуча пайсці па лініі вылучэньня рабочых, арганізоўваючы для элемэнтарнай падрыхтоўкі вылученцаў кароткатэрміновыя курсы на прадпрыёмствах.

е) Заключыць дагаворы з НКАховы Здароўя аб забесьпячэньні рабочых мэддапамогай і аптэчкамі. На прадпрыёмствах, якія налічваюць ня менш 200 чалавек рабочых і няма паблізасьці ўрачэбных і фэльчарскіх пунктаў, адчыніць мэдпункты.

ж) Разгарнуць сацспаборніцтва паміж прадпрыёмствамі на лепшую падрыхтоўку да сэзону.

### 2) Па лініі Белкаапсаюзу.

а) Даць канкрэтныя паказаньні мясцовым каапэратывам аб арганізацыі забесьпячэньня прадуктамі харчаваньня: хлебам, мясам, крупамі, сахарам і інш. па нормах, зацьверджаных НКГандлем.

б) На ўсіх торфараспрацоўках і мэліарацыйных работах дзе налічваецца 50 чалавек і больш, адчыніць крамы ці ларкі, а дзе менш арганізаваць снабжэньне праз бліжэйшыя крамы, дастаўляючы тавары і прадукты на месца работ.

в) На ўсіх торфараспрацоўках і буйных мэліарацыйных работах адчыніць грамадзкія сталоўкі.

г) Сэктару Земляўпарадкаваньня і мэліарацыі НКЗ у 3-х дзённы тэрмін даць Белкаапсаюзу зьвесткі аб мясцох мэліарацыйных работ і дзе патрэбна адчыніць грамадзкія сталоўкі, заключыўшы з Белкаапсаюзам дагавор аб снабжэньні рабочых.

д) Белкаапсаюзу скарыстаць маючыся кіно-перасоўкі для максімальнага абслугоўваньня рабочых торфараспрацовак і мэліарацыйных работ.

е) Адзначаючы недастатковую ўвагу пытаньням аховы працы на торфараспрацоўках і мэліарацыйных работах з боку Інсцэкцыі Працы ў мінулым годзе, Наркампрацы даць паказаньні аб наладжваньні сыстэматычнага нагляду за выкананьнем мерапрыёмств па ахове працы.

### 4 Па лініі саюзу

а) Улічваючы вопыт мінулага году, зараз жа заняцца пытаньнямі падбору работнікаў у рабачкомы торфараспрацовак і мэліарацыйных работ і распачаць працу па арганізацыі рабачкомаў.

б) На агульных сходах рабочых прапрацаваць вытворчыя пляны кожнага прадпрыёмства, паставіўшы задачай поўнае іх выкананьне, праз арганізацыю сацспаборніцтва паміж прадпрыёмствамі і ўнутры прадпрыёмстваў, разгортваючы ўдарніцтва і працу вытворчых нарад, павышаючы вытворчую кваліфікацыю рабочых.

в) Разгарнуць масавую працу па растлумачэньні рабочым палітыкі партыі ў галіне індустрыялізацыі краіны і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі (пяцігодка калектывізацыі), вядучы рашучую барацьбу з праявамі кулацкіх і наогул не пралетарскіх настрояў.

г) У галіне ліквідацыі няпісьменнасьці паставіць мэтай, каб ні адзін рабочы і работніца да 45 гадовага ўзросту к канцу сэзону не засталіся няпісьменнымі, для чаго зараз жа прыступіць да набыцьця лемантараў „Сельгасрабочы", пісьмовых прылад, узгадніць настаўнікаў і па прыездзе рабочых зразу арганізаваць лікпункты.

д) На ўсіх торфараспрацоўках і мэліарацыйных работах абсталяваць чытальні, чырвоныя куткі па бараках, устанавіць радыё, папоўніць бібліотэкі, а дзе іх няма—набыць, забясьпечыць рабочых газетамі і часопісямі, як праз выпіску за сродкі рабачкомаў, так і праз арганізацыю падпіскі сярод рабочых і работніц.

е) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на барацьбу з адмоўнымі зьявішчамі ў быту: п'янствам, хуліганствам, карцежнай гульней, лаянкай і інш. арганізоўваючы разумныя развлечэньні—кіно, спэктаклі, вечары, канцэрты, экскурсіі, гульні, спорт і г. д.

ж) Адзначаючы праявы шавінізму ў мінулым годзе (рускія не ладзілі з беларусамі) а таксама і антысэмітызму, разгарнуць працу па інтэрнацыянальным выхаваньні рабочых.

з) Торфа-Мэліарацыйнаму Сэктару БРК арганізаваць праверку падрыхтоўкі да надыходзячых работ на мясцох па прадпрыёмствах.

## Рабачкомы, сельрабачкомы і члены саюзу сельгаслерабочых.

З 1-га красавіка г.г. Беларускі Рэспубліканскі Камітэт пачынае пасылку хворых членаў саюзу на курортна-санаторнае лячэньне за лік месц па фонду палепшаньня быту і месц адпушчаемых Галоўсацстрахам.

Патрабуючых курортнага лячэньня членаў саюзу, рабачкомы павінны накіраваць на раённыя ці акруговыя ўрачэбныя кантрольныя камісіі, пасьля чаго прадставіць у Белорускі Рэспубліканскі Камітэт саюзу:

1) Сьпіс членаў саюзу, патрабуючых курортнага лячэньня.

2. Да сьпісу далучыць даведкі ўрачэбна—кантрольнай камісіі аб ступені хваробы, з паказаньнем на якім курорце член саюзу патрабуе лячэньня.

3. Даведку ад прадпрыёмства ці ўстановы, з паказаньнем якую пасаду займае член саюзу і колькі ў месяц атрымлівае пэнсіі.

УВАГА: Батракам замест даведкі ад прадпрыёмства, сельрабачкомы выдаюць даведку ад сябе, у якой апрача пэнсіі батрака паказваюць у якім парадку батрак застрахаваны.

4) Выпіску з пастановы рабачкому аб накіраваньні члена саюзу на курорт.

Без прадстаўленьня пералічаных даведак, пасылка на курорты ўтварацца ня будзе. Таксама ня будуць разглядацца заявы тых членаў саюзу, якія будуць зварочвацца ў БРК-т саюзу, мінуючы свае рабачкомы. Кожная заява члена саюзу патрабуючага курортнага лячэньня абавязкова павінна быць абгаворана рабачкомам, пры якім ён знаходзіцца на вучоце.

Пры БелРэсК-ту маецца курортна—адборачная камісія, якая разглядае прысланыя ад рабачкомаў дакумэнты хворых членаў саюзу і выдзяляе кандыдатуры для пасылкі на курортнае лячэньне.

Аб выніках рашэньня камісіі і аб тэрміну і парадку пасылкі на курорт выдзеленага тавапыша, кожнаму рабачкому будзе паведамлена.

Апрача месц, прадстаўляемых членам саюзу бесплатна, БелРэсК-т саюзу забраніраваў у Курортным Бюро і платныя месцы на курорты для членаў саюзу, жадаючых ехаць за свой кошт. Гэтыя месцы можна атрымаць ці праз свае рабачкомы, ці непасрэдна праз БелРэсК-т. Сярэдняя каштоўнасьць курместа для рабочых 130 руб. і для служачых 145 руб., не ўключаючы праезду на курорт.

Каб забясьпечыць курлячэньне ў 1930 г. неабходна заяўкі прысланць у БРК не пазьней 10-га красавіка 1930 г.

Для пасылкі ў дамы адпачынку, павінны загадзя выдзеліць адпаведныя кандыдатуры. Сьпіс выдзеленых таварышоў у дамы адпачынку БРК-ту паведамляць ня трэба.

Беларускі Рэспубліканскі Камітэт саюзу разашле па рабачкомах путёўкі на маючуюся колькасьць месц у дамы адпачынку, згодна разьвёрсткі, а рабачкомы самі вызначаюць кандыдатуры і непасрэдна накіроўваюць іх у дамы адпачынку.

Апрача гэтых месц члены саюзу, або рабачкомы, жадаючыя атрымаць платныя месцы ў дамы адпачынку, павінны аб гэтым падаць заяўкі ў акруговыя страхкасы не пазьней 1-га красавіка г.г.

БРК Саюзу Сельгаслесрабочых.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Бел. Рэсп. К-ту Саюзу Сельгаслесрабочых „аб мерапрыемствах культурна-бытавога абслугоўваньня спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі“.

*Да пратаколу № 34, ад 19/III—1930 г.*

Для арганізацыі работы па культабслугоўваньні спэцыялістых, працуючых ў раёнах і мабілізаваных для ўдзелу ў пасеўкампаніі, Прэзыдыум БРК саюзу Пастанаўляе:

1) Бібліотэкі саюзныя і сэкцыйныя з агульна-палітычнай і тэхнічнай літаратурай рэарганізаваць у бібліотэкі-перасоўкі, з разьліку адна перасоўка на раён. Бібліотэка-перасоўка знаходзіцца

ры райпрафкомах саюзу на працягу -го месяца.

2) Выдзеліць з бібліотэкі ЦДС дру- я паасобнікі кніг, з якіх арганізаваць бібліотэкі-перасоўкі для Менскай акругі.

3) Пры складаньні каштарысу па рыманьні сэкцый, прадугледзець сродкі папаўненьне бібліотэк-перасовак нолітаратурай.

4) Пры папаўненьні стацыянарных бібліотэк у саўгасах, лясьніцтвах, лесаабачкомах і прафкомах, а таксама пры арганізацыі новых, стварыць пры іх аддзелы з спэцыяльна-тэхнічнай літаратурай.

5) Арганізаваць куткі спэцыялістых Менску, Полацку, Віцебску, Бабруйску Гомелі з адпаведнымі агульнымі пакашканьнямі для прыяжджаючых з раёаў спэцыялістых, а таксама пашырыць аючыяся дамы ў Магілёве і Воршы. Фінчастцы разам з ЦБ сэкцый падрыхтаваць пытаньне аб фінансаваньні гэтага мерапрыемства і ўнесьці прапановы на Прэзыдыум.

6) Устанавіць у дамох спэцыялістых радыё-прыёмнікі з гучна-гаварыцелямі і забясьпечыць іх пэрыядычнай літаратурай.

7) ЦБ сэкцый у тэрміновым парадку распрацаваць шэраг мерапрыемств аб завочным павышэньні кваліфікацыі спэцыялістых, працуючых ў калгасах і раёнах.

8) У радыё-газэте і „Бел. Батраку“ выдзеліць спэцыяльныя аддзелы праз якія арганізоўваць кансультацыю і дапамогу ў практычнай рабоце спэцыялістых на вёсцы.

9) ЦБ і МБ сэкцый устанавіць сувязь з спэцыялістымі, мабілізаванымі на пасеўкампанію і дапамагаць у іх рабоце праз дасылку навейшай кіруючай і тэхнічнай літаратуры па калгасным будаўніцтву.

10) Кожныя 2 месяцы праводзіць райсходы спэцыялістых для абгаварэньня палітычных дакладаў, пытаньняў саўгаснага і калгаснага будаўніцтва, дакладаў па тэхнічных і навуковых пытаньнях і др.

11) Абавязаць камслужы і МБ сэкцый, сачыць за сваечасовым забесьпячэньнем мабілізаваных спэцыялістых зарплатай, аказваць іх сем'ям патрэбную дапамогу. ЦБ сэкцый падрыхтаваць і ўнесьці ў Белкаапсаюз прапановы аб палепшаньні забесьпячэньня спэцыялістых, працуючых на вёсцы, прадуктамі харчаваньня і спажываньня.

## ВЫПИСКА

**из протокола заседания Президиума ЦК союза Сельхозлесрабочих.**

Слушали:

8/46. Об изменениях и дополнениях, несенных в устав союза (доклад. т. мирнов).

Постановили:

Внести в устав следующие изменения и дополнения:

В § 5-м записать: „Руководит экономической борьбой в частно-капиталистических предприятиях хозяйств“.

П. п. „е“ и „ш“ заменить: „Участвует в организации крупных коллективных хозяйств, вовлекая в них батрачество, развитии массового кооперирования батрацких и бедняцко-середняцких масс деревни“.

В § 8-м п. „г“ внести слово „кулаки“.

Из п. „а“ в § 8-м исключить фразу: „Члены производственных и трудовых артелей“.

Из п. „о“ § 14-го исключить фразу „Неоднократно сами“.

В примечании 2-м § 11-го слова: „Вопросы о приеме в союз ставятся на разрешение районного и окружного комитета“ заменить словами „Падлежит немедленному исключению из союза“.

В § 27-м слова: „Секции специалистов сельского и лесного хозяйства“.

Згодна: Інфарматар **Юшкевіч.**

## Рабачкомам Саўгасаў і Рэвізыйным Камісіям.

### Аб выдатках сродкаў на ясьлі.

У мэтах палепшаньня быту і працы жанчын у гэтым годзе намечана адчыніць у саўгасах 90 дзіцячых ясьляў і пляцовак. Дзеля гэтай мэты рабачкомам саўгасаў БРК саюзу Сельгаслесрабочых і другімі арганізацыямі будуць пераводзіцца буйныя сумы грошай.

Выходзячы з гэтага, БРК прапануе:

а) Выдаткаваньне сродкаў утвараецца рабачкомамі выключна па мэтаваму прызначэньню пад кіраўніцтвам райурача.

б) Перавадзімыя сродкі павінны захоўвацца выключна ў Касе Ашчаднасьці на бягучым рахунку.

в) Рэвізыйным камісіям пад асабістую адказнасьць вясьці сталы нагляд за правідловым выдаткаваньнем сум па мэтаваму прызначэньню.

Нам. Заг. Саўгаскім Сэктарам **Мацюшка**.

## Аб вучоце ліквідацыі няпісьменнасьці з 1/X—29 г.—1/V—30 г.

*Усім Рабачкомам і Сельрабачкомам.*

У канцы красавіка м-цу г. г. па ўсіх саюзных ячэйках будуць разасланы блянкі па вучоту колькасьці няпісьменных членаў і аб ліквідацыі няпісьменнасьці за час з 1-га кастрычніка 1929 году па 1-га мая 1930 году.

З тым каб гэтыя зьвесткі былі прысланы ад Вас у Бел. Рэсп. Камітэт **не пазьней 5-га мая**, Вам патрэбна зараз-жа прыступіць да падагуліваньня ўсіх зьвестак па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод членаў саюзу і батрацтва, як працуючых, так і безпрацоўных, а таксама і сярод батракоў знаходзячыхся ў калгасах. Загадзя падлічыце колькі з агульнай колькасьці няпісьменных навучаецца ў лікпунктах, ці праходзяць курс індывідуальна-групавога навучаньня, а таксама колькі за гэты час (з 1/X—29 г. па 1/V—30 г.). ужо скончыла лікпункты, ці курсы індывідуальна-групавога навучаньня.

Усіх як скончыўшых лікпункты, так яшчэ і навучаемых ў лікпунктах разьдзяліце па полу (муж., жанчын) і па ўзросту (да 17 год, 18—22 годы, 23—35 год, 36—50 год і вышый 50 год).

Разам з гэтым падлічыце колькі Вы аб'еднаеце ўсяго членаў саюзу і колькі з агульнай колькасьці членаў саюзу—састаіць на вучоце пры Вашым рабачкоме няпісьменных.

Гэтыя ўсе зьвесткі падрыхтуйце к 1-му мая, к якому тэрміну мы Вам прышлем формы блянкаў. Па атрыманьні блянкаў—усе зьвесткі запішыце па гэтых блянках і адышліце іх ў Бел. Рэсп. Камітэт к 5-му мая.

Парадак і ўказаньне па тэхнічнаму запаўненьню блянкаў—будьзя зьмешчан у інструкцыі на адвароце блянкаў.

Акруговым і Райінструктарам саюзу прапануецца прасачыць і дапамагчы рабачкомам у выкананьні памянёнай работы.

Заг. Арг.-Аперац. сэктарам
Бел. Рэсп. К-ту **Лашкевіч**.

Заг. Інфармац.-стат. часткі **Юшкевіч**.

## ЗАУВАГА.

Беларускім Рэспубліканскім Камітэтам у сакавіку м-цу г. г. разасланы наступныя блянкі па ўдзелу н/саюзу ў праводзімай рабоце;

1) Усім Рабачкомам і Сельрабачкомам—пасланы формы сводак па ўдзелу у пасеўкампаніі і калектывізацыі.

2) Усім сельрабачкомам — пасланы сводкі аб колькасьці батрацтва навогул і колькасьці батракоў уступіўшых у калгасы, як самастойна, гэтак сама і з сваімі сем'ямі і аб колькасьці батракоў пасланых на працу ў саўгасы.

3) Рабачкомам і сельрабачкомам,

налічываючым у сваім абслугованьні звыш 50 чалавек,—пасланы формы па вучоту ўдарнікаў, уступіўшых у ўдарныя брыгады ў Ленінскі прызыў г. г.

Усе рабачкомы і сельрабачкомы павінны зараз-жа праверыць ці адасланы вышэй—пералічаныя зьвесткі, і калі не, то зараз-жа іх скласьці і адаслаць у Бел. Рэсп. Камітэт Саюзу.

Акруговым і Раёным інструктарам саюзу прапануецца праверыць, ці адасланы рабачкомамі пералічаныя зьвесткі і калі не адасланы, то дапамагчы тым рабачкомам якія не адаслалі, скласьці памяненыя зьвесткі і тэрмінова адаслаць іх у БРК.

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту. Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар—**Монжалей**
Намесьнікі яго: **Аскерка Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 1671 Тыраж 1000 экз. Друкарня Менспраўдому.

